# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 16 (947 ГОД XIX БЕЛАСТОК 21 КРАСАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР



*Аляксандр Бандарук са Старога Ляўкова Гайнаўскага павету на сёлетнім цэнтральным аглядзе БГКТ заняў II месца ў катэгорыі сучаснай песні ў групе салістаў.*

*Фота А. Карпюка.*

З КОНКУРСУ САВЕЦКАЙ ПЕСНІ




Нядаўна ў Беластоку праходзіў ваяводскі агляд да агульнапольскага конкурсу савецкай песні. У асобнай катэгорыі выступілі вучні падставовых школ. Побач з вучнямі 7—8 класаў спявалі нават першакласнікі. І ў гэтым справа ўзросту амаль не адыгрывала ніякай ролі. Камісія ў складзе вельмі сур'ёзным, усе спецыялісты ці то ў галіне музыкі, як дырэктар беластоцкай музычнай школы, ці ў галіне дыкцыі (артыстка з тэатра імя А. Вянгеркі), ацэньвала ўдзельнікаў усебакова. Мала было мець добры голас ці выбраць добрую песеньку, трэба было яшчэ праявіць высокую сцэнічную культуру. Іменна гэтым спадабаліся журы дзяўчынкі Эля Машталеж з Беластока і Эля Куроўская з Тыкоціна, якім было прызнана першае месца. Галіна Беглюк з Гайнаўкі, удзельніца штогадовых конкурсаў беларускай песні, заняла другое месца. У групавым спяванні першае месца было прызнана вельмі сімпатычнаму квартэту з вёскі Кляпачы Беластоцкага павету. Аж некалькі ў конкурсе было сямейных дуэтаў — або братоў, або брата і сястры. І наогул спявалі яны добра. Відаць, у іх сем'ях

(Працяг на стар. 3)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

Сельгасгурткі на новым этапе ● Людзі XXX-годдзя (новы цыкл) ● У дружнай сям'і васількоўскіх тэкстыльшчыкаў ● Больш ўвагі драмгурткам ● Настаўніцкі клуб у Гайнаўцы ● У Задрыпанцы выбары солтыса ● Спецыялізацыя ў сельскай гаспадарцы ● Чаму ў каровы хвост уніз расце ● XXX-годдзе ў гміне Шудзялава ● Пад развагу начальніку гміны ў Гарадку ● Весткі з Белавежы, Дубін, Азяблаў, Целушак, Вулькі Выганоўскай, Міхалова, Кожына і інш.

# АСТАНУЦЦА Ў ПАМЯЦІ НАРОДА

З гордасцю адзначаем мы XXX-годдзе народнай улады ў нашай краіне. Перш за ўсё ўказваем на яе грамадныя заваяванні ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцця.

Адначасова аднак не забываем, што народную ўладу не прынёс нам добры дзядзька ў святочным падарунку. Гінулі людзі — найбольш самаахвярныя, найбольш актыўныя.

Дык пра іх — з нагоды Месяца нацыянальнай памяці — мы сёння пагаворым. Субяседнікамі нашымі з'яўляюцца: **Рамуальд Лазаровіч** — старшыня **Ваяводскага грамадзянскага камітэта аховы помнікаў барацьбы і пакут** і падпалкоўнік, доктар **Зыгмунт Каштыла** — член прэзідыума гэтага Камітэта і дырэктар Беластоцкага аддзялення музея Войска Польскага.

**Р. Лазаровіч:** Сапраўды, гады 1944—1947 былі ў Беластоцкім ваяводстве перыядам вострай класавай барацьбы, якая часта станавілася ўзброеным змаганнем. Ад бандыцкіх куль рэакцыйнага падполля патраціла ў нас жыццё 2782 асобы, не лічачы ваеннаслужачых, якіх загінула 201 асоба.

**З. Каштыла:** Трэба адзначыць, што наш камітэт галоўным чынам намагаўся, каб выявіць і ўвекавечыць месцы барацьбы і пакут нашага народа ў час гітлераўскай акупацыі. Здаецца, мы добрасумленна сплачваем доўг паўшым у барацьбе. Маем у ваяводстве 38 „Ізбаў народнай памяці", у якіх прадстаўлены падзеі і людзі, заслужаныя ў барацьбе з акупантам, у барацьбе за народную ўладу. Дагэтуль трывалымі помнікамі мы ўвекавечылі ўжо звыш 330 месц, дзе была праліта пакутніцкая кроў нашых суайчыннікаў.

**В. Рудчык:** У архіве Ваяводскага камітэта партыі захоўваецца сухі і адначасова патрасаючы дакумент. Гэта лікавае адлюстраванне бандыцкага злачынства ў вёсках Залешаны, Вулька Выганоўская і Зане ў Бельскім павеце. Бандыты напалі на гэтыя вёскі 29 студзеня і 2 лютага 1946 года. Забілі 46 чалавек (сярод якіх было 15 дзяцей да дзесяці год), спалілі 76 жылых дамоў. А гэта толькі за тое, што сяляне гэтых вёсак выканалі свае абавязкі ў пастаўцы збожжа дзяржаве.

**З. Каштыла:** Памяць аб трагедыі гэтых вёсак таксама ўвекавечана помнікамі.

**Р. Лазаровіч:** Адну настаўніцу з вёскі Хлюдне ў Ломжынскім павеце бандыты замучылі толькі за тое, што ў час уроку сказала прыхільнае слова ў адрас народнай улады.

**З. Каштыла:** Калі ўжо гаварыць пра Ломжу, дык варта адзначыць, што ў будынку павятовай камендатуры міліцыі ў Ломжы існуе вельмі дбайна абсталяваная „Зала традыцый грамадзянскай міліцыі". Ваяводская камендатура МО

(Працяг на стар. 4)



*Падставовая школа імя радавога Генрыка Руткоўскага ў Златарыі Беластоцкага павету.*

*Фота А. Казла.*

## Новыя вершы

### БЕЗЫМЕННЫ Ў ПОЛІ КАМЕНЬ

Безыменны ў полі камень.
Не скрануць яго плугамі,
Не рассекчы перунамі.

А на камені тым — каска
З гартаванай сталі наскай,
Ажалобленая краскай.

А на касцы зорка ззяе,
Што ад ліўняў не згасае,
І ад снегу не ліняе.

А над гэтай зоркай — колас.
Цішыня стаіць наўкола,
Толькі жаваранка голас.

І як птушкі спеў бруіцца —
Ажывае камень, быццам
Пад ім некаму не спіцца.

*Максім Танк*




Прынятая на пасяджэнні пленума ГП БГКТ 24.III.1974 г. **„Праграма адзначэння XXX-годдзя ПНР Беларускім грамадска-культурным таварыствам"** падкрэслівае, што „Устанаўленне народнай улады Дэкрэтам ПКВН ад 22 ліпеня 1944 года было велічнай гістарычнай падзеяй, раўназначнай з паўстаннем дзяржавы новага тыпу, дзяржавы народнай, у якой уладу ўзяў у свае рукі рабочы клас у саюзе з сялянствам і інтэлігенцыяй". Мінулыя трыццаць год ператварылі наш край з адсталага і беднага ў дзяржаву сучасную і заможную. „Дасягненні мінулых год, — сцвярджаецца ў праграме, — паклалі моцны фундамент для хутчэйшага развіцця нашага рэгіёна, пацвердзілі правільнасць абранага трыццаць год таму назад напрамку пераўтварэнняў. Ведаем, што аб будучыні нашай краіны будзе вырашаць яе эканамічная моц. Ведаем таксама, што маем усе патэнцыяльныя магчымасці для таго, каб такую Польшчу, гаспадарча моцную, заможную і багатую пабудаваць. У ажыццяўленні гэтых прадпасылак неабходны намаганні ўсіх устаноў і арганізацый, у тым ліку таксама і нашай арганізацыі — Беларускага грамадска-культурнага таварыства".

Каб дастойна адзначыць XXX-годдзе Народнай Польшчы, БГКТ у асяроддзі, якое яно ахоплівае сваёй дзейнасцю, будзе развіваць актыўнасць членаў сваёй арганізацыі ў выкананні заданняў, акрэсленых VI з'ездам і I краёвай канферэнцыяй ПАРП, звяртаючы асаблівую ўвагу на вытворчыя ініцыятывы ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і будаўніцтве. Важна, каб кожны член нашай арганізацыі меў цвёрдае пачуццё асабістай адказнасці за развіццё краіны, ваяводства і асяроддзя, у якім жыве.

ГП БГКТ заклікае ўсе гурткі і членаў нашай арганізацыі да ўдзелу ў грамадскіх чынах пад лозунгам „Ад чысціні да гаспадарнасці". Многа можна зрабіць **у чынах пры пабудове і рамонце дарог** да гмін і зборных школ, **дапамагаючы** рэалізаваць заданні, акрэсленыя дзяржаўным планам будовы цэнтраў здароўя, зборных школ, святліц, стадыёнаў, басейнаў і іншых аб'ектаў грамадскага карыстання. Неабходны таксама масавы ўдзел грамадства ў пасадцы лесу на няўдобіцах, дрэў пры дарогах, на вуліцах вёсак і мястэчак. Усе нашы члены павінны прыняць удзел у „Дні чыну трыццаціюгоддзя", які намечан на 28 красавіка г.г. Напэўна не забракне членаў БГКТ сярод удзельнікаў конкурсаў „Майстра гаспадарнасці", „Жыхары свайму гораду", „Гміна майстрам гаспадарнасці", „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная".

У асветна-культурнай дзейнасці наша арганізацыя будзе знаёміць грамадства з роляй і месцам Народнай Польшчы ў сучасным свеце і папулярызаваць багатыя і прагрэсіўныя традыцыі Беласточчыны з часу змаганняў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, партызанскага руху і барацьбы за вызваленне і ўмацаванне народнай улады.

Апрача конкурсаў песні і тэатральных калектываў, якія ў гэтым годзе праходзяць пад лозунгам 30-годдзя ПНР, будзе праведзен ГП БГКТ і „Нівай" конкурс „Што я ведаю аб Народнай Польшчы?", у клубах і святліцах БГКТ — конкурс дзіцячага малюнку „Польшча ў XXX-годдзі". Маладыя гаспадары напэўна ўключацца ў конкурс, аб'яўлены Ваяводскім праўленнем Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі „Мінулае і сучаснасць маёй вёскі". У месяцы маі прадбачваецца арганізаваць фестываль харавых калектываў БГКТ, а ўлетку пад лозунгам „30 год ПНР" ва ўсіх паветах і горадзе Беластоку адбудуцца фэстыны. Урачыстыя вечары, прысвечаныя Святу Адраджэння 22 ліпеня, даклады, лекцыі, вечары паэзіі і песні, віктарыны, фотавыстаўкі і выстаўкі і шэраг іншых мерапрыемстваў будуць праведзены ў гуртках, аддзелах і ГП БГКТ.

Усе гурткі і аддзелы правядуць спецыяльныя сходы і пасяджэнні, прысвечаныя XXX-годдзю ПНР. У месяцы снежні ГП БГКТ правядзе падсумаванне і ацэнку ўдзелу нашай арганізацыі ў выкананні заданняў юбілейнага года.

ГП БГКТ упэўнена, што кожны аддзел, гурток і член нашай арганізацыі зробіць усё, каб дастойна адзначыць знамянальны год у гісторыі нашай народнай Айчыны. (мг)

## ШТО НОВАГА?

### ДОБРЫЯ ВЕСТКІ З ГАЙНАЎСКАГА ДРЭВААПРАЦОЎЧАГА КАМБІНАТА

У кабінеце Баляслава Сулімы — намесніка дырэктара Гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната вісіць цікавы графік, які ярка адлюстроўвае актуальнае становішча ў прадукцыйнай дзейнасці прадпрыемства.

— Што ў вас новага? — пытаю ў дырэктара.

— Перш за ўсё хачу адзначыць, што калектыў нашага камбіната паспяхова выконвае свае прадукцыйныя планы. Гляньце вось на гэтае графічнае адлюстраванне вынікаў нашай працы. Гэта зводка за два месяцы гэтага года. Гарызантальная чырвоная лінія абазначае наш план, а ўсё, што вышэй яе — гэта звышпланавая наша прадукцыя.

Сапраўды, каляровыя стоўбікі паказчыкаў і па колькасці вырабаў, і па продажу гатовай прадукцыі, і па сабекоштах страляюць высока за чырвоную лінію планавых заданняў.

— Не паспелі мы яшчэ, — паясняе дырэктар, — нанесці на гэты графік вынікаў за месяц сакавік. А ён у нас быў яшчэ лепшы, чым два папярэднія месяцы гэтага года.

— Як гэта растлумачыць?

— Перш за ўсё палепшылася арганізацыя працы. Рабочыя зацікаўлены добрай, высокапрадукцыйнай вытворчасцю, бо ад гэтага ж залежыць і іх заработная плата.

Цяпер чакае нас яшчэ адзін экзамен па арганізацыйнай спраўнасці. За кошт 50 мільёнаў злотых будзем разбудоўваць фабрыку мэблі. На жаль, не ўдалося нам знайсці будаўнічага прадпрыемства, якое захацела б выканаць гэту працу. Каб не страціць грошай і часу, мы рашылі гэтую разбудову рэалізаваць сіламі ўласнага рабочага калектыву.

Яшчэ не было ў нашай краіне, каб прадукцыйнае прадпрыемства прыняло на сябе такія сур'ёзныя будаўнічыя і мантажныя заданні. Дырэктар Суліма аднак упэўнены, што справяцца яны з імі паспяхова.

Ад самага пачатку, пачаўшы ад адбудовы з пасляваенных развалін, рабочым гайнаўскай дрэваапрацоўчай прамысловасці прыходзілася выконваць не адно складанае мерапрыемства. Таму і цяперашні аптымізм дырэктара Сулімы трэба лічыць поўнасцю апраўданы.

### НАСУСТРАЧ ПАРТЫЙНАМУ ЗАКЛІКУ

Нядаўна адбываліся ў Гайнаўскім павеце супольныя сходы членаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Аб'яднанага стронніцтва людовага. Вечарам пасля працы ў полі і на падворку збіраліся сяляне, каб яшчэ раз пазнаёміцца са зместам *„Ліста Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Савета Міністраў ПНР у справе павышэння сельскагаспадарчай вытворчасці і гадоўлі"*.

Такі сход адбыўся таксама ў вёсцы Чыжы. Гэта вёска з'яўляецца адной з найлепш загаспадараваных у Гайнаўскім павеце. Відаць гэта ўжо з першага позірку. Драўляныя платы ўсё часцей уступаюць тут месца жалезнай, прыгожа размаляванай агароджы. Сярод старых драўляных хат штораз больш мураваных асабнякоў.

Чыжоўскія актывісты станоўча аднесліся да зместу гэтага „Ліста". Яны ўжо раней, некалькі месяцаў таму назад, прынялі на сябе каштоўныя абавязацельствы, перш за ўсё рашылі значна павялічыць жывёлагадоўлю. Да цяперашняга стану чыжоўскай жывёлы яны дакінуць яшчэ каля сотні кароў і цялят. Будзе гэта іх уклад у беластоцкі „мільён".

Адначасова члены ПАРП і ЗСЛ з Чыжоў на сваім супольным сходзе гаварылі аб магчымасцях павелічэння ўраджаяў палявых культур. (вр)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА



## Кветкі — людзям

На берагу жывапіснай Шчары раскінуліся цяпліцы Слонімскага трэста зялёнай гаспадаркі. Тут круглы год цвітуць гваздзікі, калы, хрызантэмы, прымулы і іншыя кветкі.

Амаль штодзённа машыны з жывымі прыгожымі раслінамі накіроўваюцца з Слоніма ў Мінск, Брэст, Баранавічы і іншыя гарады рэспублікі. Слонімскія кветкаводы сваёй прадукцыяй цешаць маладажонаў і юбіляраў, многіх жыхароў горада і вёскі.

Калектыў трэста паспяхова спраўляецца з вытворчым заданнем. Толькі за мінулы год тут атрымана ад рэалізацыі кветак 150 тысяч рублёў даходу, што азначае больш, чым намячалася ў абавязацельствах.

Трэст на працягу многіх год з'яўляецца пастаянным удзельнікам Выстаўкі народнай гаспадаркі СССР у Маскве. Многія кветкаводы ўзнагароджаны медалямі і дыпломамі. У ліку іх перадавікі вытворчасці Лідзія Тачоная, Вольга Ракуць і іншыя.

## Зроблена ў калгасе

„Ордэна Леніна калгас „Прагрэс" Гродзенскага раёна". Прадукцыю з такім надпісам — банкі бярозавага і яблычнага сокаў — можна часта ўбачыць у магазінах абласнога цэнтра. Яе выпускае кансервавы цэх, які тутэйшыя калгаснікі з пашанай называюць заводам. Толькі за адзінаццаць месяцаў 1973 года гаспадарка накіравала ў гандлёвую сетку 440 тон сокаў. Ад іх рэалізацыі ў калгасную касу паступіла 225 тысяч рублёў.

— У перспектыве, — расказвае старшыня калгаса А. І. Дубко, — асартымент выпускаемай цэхам прадукцыі значна павялічыцца. Менавіта, пачнем мы выбраляць кансервы з гародніны. Цяпер цэх пашырае вытворчыя плошчы, аснашчаецца навейшым абсталяваннем. Вядзецца будаўніцтва буйнага гароднінасховішча.

## Канкрэтна, значыць — эфектыўна

У беластоцкім жыллёвым кааператыве „Захэнта" звыш 18 тыс. жыхароў, у тым ліку 6 тысяч дзяцей і моладзі. З кожным годам павялічваецца наша база для грамадска-культурнай працы. Дзейнічае 6 святліц і клуб. У гэтым годзе для грамадска-выхаваўчай дзейнасці будуць перададзены два будынкі (пасёлак Пяста). Апрача гэтага, на нашых трох пасёлках ёсць 40 пляцовак для дзіцячых гульняў.

Рада кааператыва імкнецца каардынаваць грамадска-выхаваўчую дзейнасць супрацоўнічаючых з кааператывам маладзёжных, грамадскіх, гаспадарчых і культурных арганізацый. Супольна наладжваем фатаграфічную, мастацкую і мадэльную майстэрні.

Таксама наладзілі мы супрацоўніцтва са школамі. З мэтай вызначэння і канкрэтызацыі супольнай грамадска-выхаваўчай дзейнасці з 3, 10, 28 і 29 школамі, а таксама Электрычным тэхнікумам былі адпаведныя пагадненні. Цяпер працуем над канкрэтызацыяй мадэлі кааператыўнай пасёлкавай школы. У маі на агульнаваяводскай сустрэчы актывістаў жыллёвых кааператываў „Захэнта" прадставіць свой вопыт у гэтай галіне.

Лозунг „Захэнты" „Моладзь — сугаспадар пасёлка" ўвайшоў у праграму гарцэрскага шчэпа імя капітана Ул. Рагініса (22 школа). Кааператыў арганізаваў дзецям гэтай школы адпачынак у час зімовых канікул — белыя вакацыі. У выніку супольнага выкарыстання сродкаў і кадраў у школе разгортвае сваю дзейнасць гарцэрскае кабарэ „Іскеркі", якое дзякуючы свайму высокаму мастацкаму ўзроўню прадстаўляла наша ваяводства ў „Панараме ХХХ-годдзя". Паспяхова працуюць таксама падобныя калектывы на пасёлках Пяста і Маладых. Як сугаспадары вучні з пасёлка імя Адама Міцкевіча працавалі звыш 1500 гадзін пры парадкаванні сквераў.

Імкнемся, каб нашы пасёлкі, асабліва плошчы пры блоках прыгожа выглядалі. Кааператыў зацвердзіў сёлетні гарманаграм грамадскіх чыноў, у якім большая частка працы звязана з упрыгожваннем пасёлкаў. У рамках капіталаўкладанняў і грамадскіх чыноў у гэтым годзе пасадзім каля 15 тысяч карчоў і дрэўцаў, а таксама звыш 12 тысяч сезонных кветак.

Наша праграма адзначэння ХХХ-годдзя ПНР з'яўляецца канкрэтным, інтэграваным грамадскім дзеяннем на карысць нашага кааператыва. Грамадскім чынам будзем працаваць каля 20 тысяч гадзін. Агульная вартасць гэтай працы складае 502 тысячы злотых. Хочам арганізаваць грамадска-выхаваўчую працу на добра ўладкаваных плошчах і аб'ектах, а жыць у блоках з квітнеючымі балконамі, дзе кругом была б зелень, кветкі, дэкаратыўныя расліны.

**Ян Зенюк**
**старшыня рады кааператыва**



*Спартакіяда ў „Захэнце".*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 7 красавіка ў Беластоку адбыўся справаздачна-выбарны сход літаратурнага аб'яднання „Белавежа", якое існуе пры ГП БГКТ. Са справаздачным дакладам выступіў старшыня аб'яднання Аляксандр Баршчэўскі. Пасля дыскусіі было выбрана новае праўленне ў складзе: Віктар Швед — старшыня, Юрка Геніюш — намеснік і Юрка Баена — сакратар.

■ На павятовым справаздачна-выбарным з'ездзе Таварыства польска-савецкай дружбы ў Гайнаўцы некаторыя актывісты БГКТ за добрую працу ў ТППР атрымалі ўзнагароды. Настаўнікі Лідзія Іванюк і Пётр Гінштузнагароджаны Залатымі адзнакамі ТППР, а вучні Беларускага ліцэя Янка Сапешка і Аліцыя Швед — Маладзёжнымі адзнакамі ТППР.

■ 10 красавіка Прэзідыум беластоцкага павятовага праўлення аддзела БГКТ падсумаваў справаздачную кампанію ў гуртках БГКТ, а таксама зацвердзіў матэрыялы на пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела, прысвечанае святкаванню 30 гадавіны Народнай Польшчы.

Падобныя пасяджэнні прэзідыумаў праўленняў аддзелаў адбыліся ў Бельску і Мілейчыцах.

■ Шмат гурткоў БГКТ аплаціла ўжо членскія складчыны за 1974 год. У Беластоцкім павеце ў 100 працэнтах усе члены БГКТ аплацілі членскія складчыны ў наступных гуртках: у Гарадку, Баброўніках, Коматаўцах, Мелешках і Рыбаках.

■ Нядаўна Сакрат Яновіч меў аўтарскую сустрэчу ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. (мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 21. IV.** 6.30 Techn. Rol.: Chemia. 7.00 Język pol. 7.30 Kurs Roln. 8.25 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Progr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Ex libris. 10.30 Antena. 10.45 Piosenka dla Ciebie. 11.30 Klub miłośników sztuki. 12.00 Dziennik. 12.20 Karajan dyryguje Beethovena. 13.05 Szukamy rezerw. 13.20 W Dolinie Słońca, cz. III. 13.40 My 74. 14.35 Dla dzieci. 15.10 Kwadrans tyg. 15.25 Czas i ludzie. 16.25 Losowanie Toto-Lotka. 16.40 Refleksje obywatelskie. 17.00 Samochód dla najlepszego. 17.30 Tele-Echo. 18.25 Piłka nożna (II połowa) Legia (Warsz.) — Górnik (Zabrze). 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Odyseja — film wł. cz. I. 21.10 Sam na sam 22.00 Sport. 23.00 Samochód dla najlepszego.

**Poniedziałek 22.IV.** 12.45 Techn. Roln.: Hodowla zwierząt. 13.25 Mat. 15.40 NURT — Ekonomia. 16.10 Progr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stadionu. 17.55 Kurier Lub. 18.10 Tańce połowieckie. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Wczoraj i dziś. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: A. Siekierski — Szansa. 21.50 Trudne powroty — film dok. 22.25 Śpiewa Halina Słonicka. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 23. IV.** 6.30 Techn. Roln.: Hodowla zwierząt. 7.00 Mat. 8.00 Odyseja — film wł. odc. I. 8.50 Siedemnaście mgnień wiosny — odc. X. 10.00 Dla szkół: (kl. V) J. pol. — Józef Chełmoński. 11.05 Witkacy — W małym domku. 13.45 Techn. Roln.: Mat. 14.30 Uprawa roślin. 16.25 Progr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Sylwetki X Muzy — Leonard Pietraszak. 17.30 Spotkanie z Ernestem Bryllem. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Reportaż. 19.10 Przyp., radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedemnaście mgnień wiosny — odc. X. 21.30 Sport. 21.35 Interstudio. 22.05 Złota płyta Maryli Rodowicz. 22.55 Dziennik.

**Sroda 24. IV.** 6.30 Techn. Roln.: Mat. 7.00 Uprawa roślin. 9.45 Mity i rzeczywistość — film ang. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Hist. — Ta, co nie zginęła. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — Szkło. 12.45 Techn. Roln.: Mech. roln. 13.25 Uprawa roślin. 14.40 Politechn. Kurs przygot. Fizyka. 15.55 NURT — Pedagog. 16.25 Progr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Harcerski raport. 17.10 Los. Mał. Lotka. 17.20 Inf., Tow., Prop. 17.35 Wacław Taranczewski — film dok. 18.05 Kronika Warsz. i Maz. 18.25 Łuk tęczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Mity i rzeczywistość — film ang. 21.40 Sport. 21.50 Trzęsienie ziemi — rep. 22.30 Progr. pośw. pamięci K. Komedy. 23.10 Dziennik.

**Czwartek 25. IV.** 6.30 Techn. Roln. Mech. roln. 7.00 Uprawa roślin. 9.10 Telefon 110. 10.20 Łuk tęczy. 11.05 Dla szkół: (kl. VII-VIII) J. pol. — Film. 13.45 Techn. Roln.: Zoologia. 14.30 Hodowla zwierząt. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Progr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.45 Wiem wszystko. 18.05 Kronika Warsz. i Maz. 18.25 Tajemnice Lubliany. 19.00 TEST — Konsumpcja. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Telefon 110. 21.30 Sport. 21.40 Listy i polityka. 22.10 Kalosz — progr. rozr. 23.00 Dziennik. 23.15 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 26. IV.** 6.30 Techn. Roln.: Zoologia 7.00 Hodowla zwierząt. 10.00 Film. 10.25 Trzy tysiąclecia — film dok. węg. 11.05 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Wych. techn. — Łączność radiowa. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wych. ob. — Nie ma praw bez obowiązków. 12.45 Techn. Roln.: Ochrona roślin. 13.25 Chemia. 14.40 Politechn. Kurs przygot. Mat. 15.55 NURT — Filozof. 16.25 Progr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Turyst. i wyp. 17.45 Tyg. Inf. Młodych. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Najlepsze z najlepszych. 19.15 Przyp., radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Film. 20.45 Panorama. 21.25 Sport. 21.30 Teatr TV: Ch. Peyret-Chappuis — Judyta. 22.50 Dziennik.

**Sobota 27. IV.** 6.30 Techn. Roln.: Ochrona roślin. 7.00 Chemia. 8.40 Filmy z Marleną Dietrich: Płomień Nowego Orleanu. 10.00 Dla szkół: (kl. VIII) Zoolog. — Ptaki. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Nauka o czł. — Sprawy 15-latków. 13.45 Techn. Roln.: Chem. 14.30 J. pol. 15.25 Progr. dnia. 15.30 Progr. I prop. 15.45 Red. Szk. zapowiada. 16.05 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Sobótka. 17.00 Dla młodzieży. 17.40 Przyroda polska. 18.10 Progr. publ. 18.40 Godzina Orfeusza. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy z Marleną Dietrich: Płomień Nowego Orleanu. 21.40 Teatr Rozr.: A. Awerczenko — Klucz i anioły — farsa. 22.40 Dziennik. 23.00 Sport. 23.10 Canzonissima — progr. rozr. wł.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 19.IV.** 13.40 Progr. dnia. 15.00 Dla dzieci. 17.00 Film anim. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Konkurs art.

**Sobota, 20.IV.** 9.00 Film fab. 12.55 Hokej. ZSRR — Szwecja. 16.15 W świecie zwierząt. 16.55 Hokej. Czechosł. — Fin. 19.15 Czas. 19.45. Spotkanie z A. Barabadżanianem. 21.05. Sport.

**Niedziela. 21.IV.** 7.00 Progr. dnia. 9.00 W eterze „Młodość". 11.15 Film fab. 13.30 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub filmowy. 17.15 Film dokument. 17.35 Koncert. 19.00 Czas. 19.30 c. d. koncertu. 20.30 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Ponieważ się kochają — rum. 23-24. Zbereźnik — ang. 25—26. Jaskółki — węg. 27—28

**Czeremcha** Dziewica i cygan — ang. 23—24. Trzeba zabić tę miłość — pol. 27—28.

**Czyże** Ostatni watażka — buł. Roztargniony — fran. 24—28.

**Dubicze Cerkiewne** Ocalenie — pol. Dramat zazdrości — włos. 24—28.

**Gródek** Nieszczęście Alfreda — fran. 27—28.

**Kleszczele** Śmierć wybiera — czes. 23—24. Wilk morski — rum. 25—26. Zemsta wilka morskiego — rum. 27—28.

**Michałowo** Król, dama, walet — NRF. 23—24. Czym mogę służyć — czes. 25—26. Na rachunek — radz. 27—28.

**Mielnik** Na torze czeka morderca — czes. 23—24. Ned Kelly — ang. 25—26. Łobuz — fran. 27—28.

**Milejczyce** Film o miłości — węg. 23—24. Poczekam aż zabijesz — czes. 25—26. Wykryć szpiega — radz. 27—28.

**Narewka** Pechowy zalotnik — radz. Śladami czarnowłosej dziewczyny — jug. 24—28.

**Narew** Cudowny kożuszek — węg. Rewizja osobista — pol. 24—28.

**Nurzec** Ostatnie wakacje — radz. 23—24. Zwali go Alcapone — jug. 25—26. Serafino — włos. 27—28.

**Orla** Dziewczyna z gór — jug. Szatnia pełna królików — węg. 24—28.

**Rajsk** Pod prąd — węg. Zimorodek — radz. 24—28.

**Suchowola** Chłopi — pol. cz. I-II: 23—28.


*Меляшкоўскі калектыў на цэнтральным аглядзе ў Беластоку.*

У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ

# Вечарынка сёння будзе

У мінулым годзе меляшкоўскія жанчыны, якія выступілі на цэнтральным аглядзе драмгурткоў, здзівілі і заклапаталі журы конкурсу. Выступілі на сцэне не з п'есай, а паказалі сцэны з вяселля, якія мелі месца ў Меляшках. Журы і арганізатарам агляду не пад сілу было заквалiфікаваць гэтую „пастаноўку".


*Мар'я Казёл — матка і Зоф'я Марцінчык — бацька гэта тыповыя вобразы нашай сям'і.*


*Пачастунак вячэрай — неадлучная частка „вечарынкі".*

Гэта ж і не драма, і не камедыя, а спадабалася ўсім.

У гэтым годзе меляшкоўскія самадзейнікі пайшлі далей. Выцягнулі з куфэркаў старыя саяны ды вышываныя кофты і пастанавілі стварыць пастаноўку-вечарынку.

Вечарынка — гэта адзін з абрадаў ці способаў культурнага жыцця беларускай вёскі на Беласточчыне. Зыходзіліся жанчыны і моладзь да аднае хаты з кудзелямі, з пер'ем да скубання, з вышыўкай. Працавалі, спявалі, пляткавалі, варажылі. Тут адбываліся калектыўныя суды над такім ці іншым паступкам, мужыкі вялі „палітычныя" размовы, маладыя кахаліся. Вечарынка ці кудзельніцы — гэта цэлая паэзія, апавесць.

— Як сталася, што вы рашылі іменна паказаць „вечарынку"? — пытаю ў Зіны Ліцвін, кіраўніка меляшкоўскага калектыву, дырэктара мясцовай школы.

— Звычайна. Сабраліся нашы жанчыны і гаворáць: „А давайце ў гэтым годзе зробім вечарынку". Як сказалі, так і зрабілі. Кожная прынесла нешта, што памятала аб такіх кудзельніцах. Так сабралася шмат матэрыялу. Селекцыю праводзілі самі члены калектыву, дэмакратычна.

З „вечарынкаю" меляшкоўскія жанчыны выступілі ў сваёй вёсцы, на ўрачыстасці 20-годдзя гарадоцкага калектыву і ў Беластоку на цэнтральным аглядзе.

Аднак, найбольш мне спадабаліся з „вечарынкай" у Меляшках, таму што былі вельмі аўтэнтычнымі, калі запоўненая зала людзей перажывала і прыпамінала ўсё разам з артыстамі. У Гарадку калектыву „сказалі" выступаць так, а не інакш, а ў Беластоку меляшкоўцы змагаліся за месца. Як і ў мінулым годзе, арганізатары агляду не прадбачылі спецыфікі фальклорных калектываў, пра што так часта гаворыцца і што павінна быць асновай дзейнасці таварыства ў гэтым напрамку. Але не месца на гэта.

Меляшкоўскія жанчыны — гэта не толькі мастацкі калектыў. Гуртток вясковых жанчын і БГКТ — гэта адны і тыя ж жанчыны. Усіх іх — 21 чалавек. Праводзяць „кухарскія" конкурсы, калектыўна купляюць куранят, арганізуюць дзяцінцы ў час палявых работ. У мінулым годзе, напрыклад, калектыў атрымаў узнагароду — сокавыжымалку і адразу ж жанчыны арганізавалі пазычальню. Прозвішчы ўсіх іх годныя адзначэння: і Анны Дарашкевіч, якая з'яўляецца старшынёй гуртка КГВ, і калектыву: Валянціны Дарашкевіч, Ніны Лавіцкай, Веры Ярмолік, Яўтінні Марцінчык, Ніны Чэмель, Мар'і Казёл, Галіны Шыкуць, Мар'і Казёл — маткі з „вечарынкі", Анастазіі Карповіч, Мар'і Шусцік, Зоф'і Марцінчык — бацькі з вечарынкі, а таксама Юліі і Юркі Домань.


*Паўлінка — Валянціна Дарашкевіч — тыповы вобраз жанчыны, якой працаваць цяжка і дома быць цяжка, але паспяваць, патанцаваць вельмі хочацца.*

У жаночым калектыве кожны мае сваю ролю: артысты на сцэне, а, напрыклад, Леаніда Дарашкевіч і Валянціна Лінчук прадавалі білеты і сачылі за парадкам, Мар'я Дарашкевіч і Ніна Патэльская вялі буфет. Гэта было ў часе выступленняў у Меляшках, але за другім разам ролі змяняюцца.

А як штодзень? Кожная з гэтых жанчын гаспадыня, матка, прадаўшчыца ў краме. Вось якія яны, меляшкоўскія жанчыны: і да танца, і да ружанца, як гаворыць прыказка.

**А. Карпюк**
**фота аўтара**


*Кудзельніца.*

# З'ЕЗД ВЫПУСКНІКОЎ
## БЕЛЬСКАГА БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ

28 і 29 ВЕРАСНЯ гэтага года ў горадзе Бельску адбудзецца І З'езд выпускнікоў беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча, выпускнікоў і выхаванкаў беларускай гімназіі ў Бельску з гадоў 1944—47.

З'езд прысвячаецца XXX-годдзю ПНР.

Працуе ўжо арганізацыйны камітэт і чатыры рабочыя камісіі з'езду.

Рабочы сакратарыят з'езду знаходзіцца ў беларускім ліцэі ў Бельску, вул. Каперніка 4. Працуе пастаянна (акрамя нядзель) ад 8 да 15 гадзіны. Туды трэба кіраваць усе пытанні і ўвагі.

Кожнага выпускніка, ахвотнага прыняць удзел у з'ездзе просім уплаціць 300 зл. ад асобы на адрас: PKO, Oddz. Bielsk Podlaski, konto 140-9-264 з дапіскам „za I Zjazd absolwentów Liceum Nr. 3 w Bielsku Podlaskim".

Увага, выпускнікі! Др Марыя Карнілюк (даўней Якубюк), выпускнік ліцэя, гісторык, па заказу арганізацыйнага камітэта з'езду апрацавала сандажную анкету, якую просім кожнага выпускніка запоўніць. Анкеты паслужаць для апрацоўкі манаграфіі школы і яе выпускнікоў. Арганізацыйны камітэт прадставіць гэту манаграфію з'езду, а ў далейшым яна можа быць выдадзена друкам.

Анкеты можна атрымаць па пошце і асабіста ў Бельскім беларускім ліцэі, а таксама ў мясцовых групах выпускнікоў у Варшаве, у Беластоку (таксама ў рэдакцыі „Нівы"), а мо і проста ў знаёмых.

Просім усіх запоўніць анкету як найхутчэй і даслаць сакратарыяту з'езду ў Бельск.

Споўніліся, такім чынам, доўгачаканыя мары соцень выпускнікоў ліцэя, раскіданых па вёсках і гарадах Беласточчыны і ўсяе краіны. Бо няма ніводнага ваяводства ў Польшчы, дзе б не працавалі выпускнікі Бельскага беларускага ліцэя.

Ліцэй меў ужо 21 выпуск — звыш 1000 выпускнікоў, якія запоўнілі розныя галіны гаспадаркі, навукі, асветы і культуры. Яны вучоныя, інжынеры, лекары, настаўнікі, дзяржаўныя працаўнікі, гаспадары.

Да ўсіх вас, выпускнікі Беларускага ліцэя ў Бельску, звяртаемся з заклікам: прыязджайце на ваш з'езд! Давайце збярэмся, як адзін чалавек! Успомнім нашы слаўныя школьныя дні, глянем на свой пройдзены шлях, раскажам аб перажытым і па-святочнаму сустрэнемся ў сценах нашай добрай школы!

Да сустрэчы ў Бельску!

Пачатак на стар. 1

# НЕКАТОРЫЯ ДУМКІ

любяць спяваць. А можа, проста любяць савецкія песні.

Наогул трэба сказаць, што большасць дзяцей спявала вельмі задушэўна, добра разумеючы тое, аб чым спявала, і ўмела перадаць свае пачуцці гледачу. У большасці былі гэта песні лірычныя, часам нават слязлівыя. Хоць некаторым настаўнікам удалося выбраць і жывыя дзіцячыя песні. Але іх у конкурсе было выразна менш. Нямала было песень і пра каханне. І гэта ўжо выглядала ў інтэрпрэтацыі 10-12-гадовага дзіцяці больш чым смешна. Дзіўна, што гэтага не бачылі апекуны, якія рыхтавалі дзяцей на конкурс. Памятаецца мне, выступала вельмі мілая дзяўчынка з Сэйн. Пакручваючыся з мікрафонам у руках, падражаючы дарослым пявіцам з тэлевізійнага экрана, дзяўчынка гадоў дванаццаці спявала аб сваім шчаслівым каханні. Смешна і прыкра. І віна ў гэтым, напэўна, не малой Мар'ёлькі.

Або Раман Панасюк з Сямяціцкага павету. У хлопца вельмі прыемны голас. Мае нядрэнную дыкцыю. Заставалася б толькі стаць на сцэну і спяваць. Але не, нехта навучыў яго ламацца перад гледачамі, па-псеўдадаросламу ўздыхаць да месяца, высока ўздымаючы пры гэтым рукі і вочы. Пры ўсім гэтым руxі нейкія нязручна дзівачныя, з падрыгамі. Ці не лепш, каб дзіця засталося на сцэне самім сабой, такім, якім яно ёсць?

Здаралася мне бываць і на іншых конкурсах, дзе бачыла я падобную з'яву ў большай ці меншай ступені. Таму пішу аб гэтым не дзеля крытыкі, а каб звярнуць увагу апекуноў і настаўнікаў на гэты бок справы. Бо культура чалавека на сцэне, ды і ў штодзённым жыцці — не менш важная справа, чым яго талент і ўменне.

Неўзабаве пачнуцца школьныя конкурсы беларускай песні. Іменна з думкай аб іх, у знак перасцярогі, пішу гэтыя словы. Усе мы любім дзяцей. Дык няхай жа і на сцэне, у ролі артыстаў, яны застануцца тымі ж мілымі і радаснымі дзецьмі. Дапаможа ім у гэтым і добра выбраны рэпертуар, згодны з іх узростам і тэмпераментам.

І яшчэ адна справа. Давайце не будзем рабіць з нашых дзяцей абавязкова салістаў. Можа ў кампаніі, па двое, па трое ці пяцёра ім спявалася б весялей і лягчэй? Варта і аб гэтым падумаць. Галоўнае ж у арганізаванні конкурсаў такога роду — гэта папулярызацыя песні — савецкай, польскай ці беларускай. І масавы спеў гэтай мэце не толькі не пашкодзіць, а напэўна паможа.

**Яніна Чэрнякевіч**

## Беласточчына ў фотааб'ектыве



*„Амбонка" для паляўнічых у Падсупрасльскім лясніцтве ў Беластоцкім павеце.* *Фота М. Гайдука.*

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ**: Муж і жонка ўзялі развод у 1970 г. Цяпер яны хочуць падзяліць усю маёмасць, якая была набыта ў часе супольнага жыцця. У склад маёмасці ўваходзіць права на кватэру ў жыллёвым кааператыве і грашовы ўклад, звязаны з гэтым правам. Жонка, якая пасля разводу займае з дачкой кватэру, зрабіла ў 1973 г. рамонт, які каштаваў амаль 10 тысяч злотых. Ці кошты гэтага рамонту ўлічваюцца да супольнай маёмасці, ці мо павінна пакрыць іх жонка? Пытанне ўзнікла ў сувязі з тым, што знішчэнне кватэры адносіцца таксама да часу, калі ў ім пражываў муж.

**АДКАЗ:** У склад супольнай маёмасці ўваходзяць толькі тыя правы і абавязацельствы, якія ўзніклі ў час супольнага жыцця мужа і жонкі, хаця б яны фактычна жылі асобна. Маёмасць, набытая пасля разводу, таксама, як і даўгі, якія ўзніклі пасля разводу, не ўлічваюцца ў склад супольнай маёмасці. У даным выпадку, калі ў выніку падзелу маёмасці кватэра застанецца жонцы, а ўсё гаворыць аб тым, што гэтак будзе, жонка будзе вымушана поўнасцю пакрыць кошты рамонту. Абавязацельства заплаты за праведзены рамонт паўстала ў даным прыкладзе пасля правядзення рамонту, г.зн. у 1973 годзе, і таму не можа яно быць залічана да супольнай маёмасці.




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 19 год. Вучуся ў апошнім класе ліцэя. Два гады таму назад пазнаёмілася я з Андрушам, які вучыўся ў той жа школе, што і я, толькі ў старэйшым класе. Хадзілі мы з сабой паўтода. Ён прыстойны, высокі хлапец. Падабаўся ён мне, але не кахала я яго. Мо таму, што Андруша хоць і малады, але вельмі паважны, сур'ёзны. А я люблю пажартаваць, пасмяяцца. І аднойчы сказала я яму, што не хачу ўжо з ім хадзіць. Гэта было пад канец навучальнага года. Андруша тады канчаў ліцэй. Ён вельмі пераЖываў наша расстанне, аб гэтым мне гаварылі яго сябры. На канікулах зусім выпадкова спаткала я Андрушу. Вельмі прасіў, каб я пайшла з ім на „прыватку". Я пайшла, хоць неахвотна, не магла адмовіцца. Гэта было наша апошняе спатканне. Потым я даведалася, што Андруша ходзіць з дзяўчынай з нашай школы. Восенню пайшоў ён да войска, і нічога больш ад тае пары я аб ім не ведала. Але вось нядаўна атрымала ад яго пісьмо. Адпісала. У наступным Андруша пісаў, што не можа забыць мяне, што толькі я яму падабаюся і толькі мяне кахае. Піша, што хутка прыедзе дамоў у водпуск і хацеў бы са мной спаткацца. Я яму ўспомніла пра дзяўчыну, з якой ходзіць, што чула ад сяброў, што перапісваецца і з ёю. Андруша аднак адпісаў, каб не слухала аніякіх плётак, а ўсё выясніць пры спатканні. Цяпер і я ўжо змянілася. Ведаю, што гэта хлопец, якіх мала — разумны, памяркоўны, але ці пакахаю я яго — невядома. Спаткацца хацела б. Але што, калі сапраўды ён ходзіць з той дзяўчынай? Парай, „Сэрцайка"!

**Аня з Б.**

**Аня**! Спаткацца варта. А верыць у тое, што дзесь хтось казаў — не трэба. Мо Андруша і прабаваў хадзіць з нейкай дзяўчынай, калі ты яго пакінула. Так бывае. Але пэўна, што не кахае ён іншай дзяўчыны. Інакш бы не вяртаўся да цябе і не імкнуўся б спаткацца з табой.

**„Сэрцайка"**

## ФАЛЬКЛОР

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




*Плакала Галінка, плакала,*
*Што рана зімонька настала.*
*Снежаньком рутонька прыпала —*
*Не з чэго веночка увіці.*
*Нема чым свацейкоў дарыці.*
*Вов'ю я й веночка з лілеі,*
*Подару свацейкі ў недзелю.*

Ад Антаніны Аляксейчык, год 71, вёска Зверкі Беластоцкага павету, запісаў 10 студзеня 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

## Куток практычных ведаў




### ЯК СЦЕРАГЧЫСЯ МОЛІ

І так прыйшла вясна. У канцы красавіка, як вядома, якраз распачынае сваю знішчальную дзейнасць моль. Асабліва спрыяюць ёй „добрыя" ўмовы, гэта значыць, брудная, запыленая ці ў поце вопратка. Адна саміца складае 200 яечак, з якіх праз сем дзён водзяцца вусені і гэта яны менавіта жывяцца нашым футрам, ваўнянымі світрамі, касцюмамі, шкарпэткамі, шалікамі. Праз 6—16 тыдняў (у залежнасці ад тэмпературы) вусені замяняюцца ў лічынкі, а з іх пасля выводзіцца новая моль, якая зносіць яечкі. Такім чынам, моль, якая лётае, на жаль, з вялікім спазненнем дае нам сігналы аб знішчэннях у нашым гардэробе.

Што ж тады рабіць? Падставовая справа: трэба неадкладна павымаць усё з шафы, усю вопратку, старанна праветрыць (найлепш на сонцы, паколькі яно знішчае яечкі молі), выбіць вопратку) (яечкі не прычэплены моцна да вопраткі, так што гэта аперацыя адразу іх ліквідуе з вопраткі), а ўвесь брудны гардэроб аддаць у хімічную чыстку альбо, што можна, памыць у хаце.

Калі наша шафа прасторная і дастаткова там месца як для зімовых рэчаў, так і для летніх, то неабходна яе толькі старанна працерці ад пылу, пасля чаго працерці вільготнай трапачкай намочанай у азатоксе, а ў кутках змясціць кавалкі ваты, насычанай гэтым жа сродкам (змочваць яе ад часу да часу ізноў), і павесіць у шафе чыстую вопратку. У рукавах, да падкладкі футраў і цёплых паліто прычапіць маленькія торбачкі з марлі, кладучы ў іх супрацьмолевыя галкі альбо перасушаныя галінкі багна. Расліна гэта, падобна як і нафталін, дзякуючы інтэнсіўнаму паху толькі адстрашвае моль, не знішчае аднак яе яечак.

Усе дробныя ваўняныя рэчы — шалікі, шкарпэткі, рукавічкі, футравыя шапкі неабходна старанна выбіць альбо памыць і схаваць у мяшочкі з тонкага палатна, найлепш зашпіленага на замок. У мяшочкі гэтыя таксама трэба палажыць адзін з супрацьмолевых сродкаў (молятокс, азатокс, альбо антымолевыя галкі).

Калі зімовую вопратку мы маем намер перахоўваць у чамадане ці нейкім картоне, трэба яе, старанна выбіўшы ад пылу, аблажыць свежымі газетамі (запах друкарскай фарбы таксама пужае моль), спрыснутымі вадкім азатоксам, перакладаючы чыстую вопратку, футра і ваўняныя дробязі супрацьмолевымі галкамі.

Калі будзеце выязджаць з дому на вакацыі, неабходна забяспечыць дываны, ваўняныя капы, розныя ваўняныя коўдры. Коўдры можна закрыць у тапчане, падрыхтоўваючы гэта месца так, як мы падалі вышэй. Іншыя рэчы трэба выбіць, ачысціць электралюксам, пасыпаць азатоксам ці малятоксам і згарнуць у рулон.

**Гаспадыня**




Баляслаў сабраў на стол звычайную ежу: паставіў місу яшчэ цёплай бульбы, гарлач малака і талерку салёных гуркоў.

Салдат паглядзеў і ўсміхнуўся:

— Пуставаты ў вас харч.

Ён выняў са свайго мяшка ёмістую бляшанку тушонкі і спрытна распароў фінкай.

— Падагрэй, хлопча, ды закусім.

Касцянецкі дастаў біклажку з трафейным шнапсам.

— А вось гэтым не балуюся, — запярэчыў салдат, — урачы забаранілі. Жывот мне фрыцы папсавалі.

Касцянецкі дыміў кароценькай люлькай і ўважліва паглядваў на салдата адзіным сваім вокам. Нешта не падабалася яму ў гэтым начным госці. Ці то ён неяк занадта прагна еў, ці то глядзеў неяк коса, ні разу па-добраму не ўсміхнуўся, не пажартаваў. Гарэлку піць адмовіўся, кажа, жывот папсаваны, а есць за дваіх. Не, тут нешта не тое. Ён неўзаметку перамігнуўся з Баляславам, і той, зразумеўшы бацьку, устаў з-за стала. Пацягнуў і зняў з цвіка кажушок.

— Куды, хлопец? — спытаў салдат, перастаўшы жаваць. Спытаў абыякава, але Касцянецкі ўлавіў нотку неспакою ў гэтым простым пытанні.

Баляслаў сарамліва ўсміхнуўся.

— Да паненак... Не хочаце разам са мной?

— Не, мне не да баб, — сказаў з ухмылкай салдат. — Стаміўся, як вол. Спаць хачу.

Баляслаў не спяшаўся. Згарнуў цыгарку, выграб з грубкі жарынку, як бы забаўляючыся, пакідаў яе з далоні на далонь, прыкурыў і, сказаў госцю „дабранач", выйшаў у сенцы.

...Капітана Глебава на заставе не было, і Лузан, узяўшы з сабой сержанта Гараднова, сам пайшоў з Баляславам. Прапанова Гараднова была такая: уварвацца ў хату са зброяй напагатове, прымусіць начнога госця ўзняць рукі і абшукаць яго.

— У нас для гэтага няма падставы, — заявіў Лузан. — Трэба спачатку высветліць, хто ён, праверыць дакументы, а тады ўжо дзейнічаць па абставінах:

Зампаліт звярнуўся да Баляслава:

— У хату ўвойдзеш адзін, скажаш, пасварыліся са сваёй каханай, і вырашыў пайсці спаць. Мы ўвойдзем, хвілін праз пятнаццаць. Ты павінен быць побач з салдатам... Калі ён што задумае — вазьмі вось гэтую штуку. — Лузан сунуў у руку Баляслава парабелум. — Абыходзіцца ўмееш? Вось і добра, але страляй толькі ў крайнім выпадку. Дзверы не замыкай.

Яны спыніліся за сцяной суседняй хаты, а Баляслаў узышоў на ганак.

Госць усё бавіўся за сталом, курыў і размаўляў з бацькам, хоць збіраўся ўжо класціся спаць. Баляслаў, не чакаючы роспытаў, растлумачыў, чаму ён рана вярнуўся, і таксама падсеў да стала. Выпіў халоднага малака: было горача ад хуткай хады і хвалявання.

— Значыць, уцёк ад сваёй каханай? — сказаў салдат, уважліва аглядаючы Баляслава.

— Не, яна ад мяне ўцякла. Я за ёю, а яна дзверы на засаўку.

— Кепскі кавалер з цябе, з бабамі, ведаеш, як трэба? Во! — Ён страсянуў сціснутым кулаком. — Трымаць яе трэба, бабу, у ашчарэп. Яна гэта любіць. А будзеш мямліць — дрэнь твае справы.

— Так, так, — смеючыся, ківаў галавой Баляслаў, і ён пачуў ужо крокі на ганку.

Дзверы без стуку адчыніліся, — увайшлі Лузан і Гараднoў.

— Вечар добры, гаспадары, хлеб ды соль, — весела сказаў Лузан. — Пагрэцца ў вас можна?

Госць Касцянецкага тузануўся на лаўцы, але застаўся сядзець за сталом, толькі правая рука яго слізганула ў кішэню штаноў. Лузан заўважыў гэта і пашкадаваў, што не пагадзіўся з сержантам Гарадновым.

Што ж цяпер рабіць? Свой пісталет у кабуры, аўтамат Гараднова на рамні. у Баляслава пісталет у кішэні. Ва ўсіх зброя, але пакуль зрухнешся, гэты за сталом паспее перастраляць альбо пусціць усіх у паветра гранатай.

Рашэнне прыйшло нечакана — трэба прыкінуцца.

— Пан, — сказаў Лузан голасам падгулялага чалавека, — пашукай нам з сержантам пажаваць чаго. Ды можа б і па шклянцы расстараўся пагрэцца. Нуну, жыва!

Ён не сеў, а разваліўся на лаўцы, кінуў на стол шапку і расшпіліў шынель.

— Да Штабіна далёка адсюль? — спытаў ён у Касцянецкага.

— Ды кіламетраў дзесяць-дванаццаць.

— Уга! Тупаць ды тупаць. Давядзецца начаваць, пусціш, пан?

— Чаму ж, месца ўсім хопіць.

Гараднoў абыякава паклаў аўтамат на лаўку і падсеў да стала.

— Адкуль, браток? — спытаў ён госця Касцянецкага.

— Са шпіталю. Падлаталі трошкі. Да сваіх дабіраюся, — з палёгкай уздыхнуўшы, адказаў той, але руку з кішэні не вымаў.

— Дзе шнапс, пан! — крыкнуў Лузан, грукнуўшы кулаком па стале.

— Зараз, пан афіцэр, зараз, — замітусіўся Касцянецкі.

— Не звяртай увагі, — сказаў Гараднoў салдату, мой узводны трошкі перахапіў, вось і шуміць.

*(Працяг будзе).*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Патрэбны пачакальні ПКС

Больш як дзесяць год таму назад Ваяводскі аддзел ПКС у Беластоку разам з ВРН звярнуліся з заклікам, каб будаваць прыпынкі ПКС. У выніку закліку ў Гайнаўскім павеце было пабудавана 8 прыпынкаў.

Як добра схавацца за сцяной і пад дахам, калі на дворы вецер, дождж і холад! Асабліва цяжка зімой, калі аўтобусы спазняюцца і трэба доўга іх чакаць. Каб лепш і зручней было ездзіць, трэба пабудаваць пачакальню ПКС у Гайнаўцы, дзе штодзень 1000 асоб карыстаецца ПКС-ам. Няма пачакальняў таксама ў сядзібах гмін — у Кляшчэлях, Нарве, Нараўцы, Чыжах.

Пачакальняў на прыпынках ПКС няма ў многіх гайнаўскіх вёсках. Назавем тыя вёскі: Збуч, Лянева, Клейнікі і Курашава — у Чыжоўскай гміне; Дубіны, Навасады, Койлы, Пасечнікі Вялікія, Ягаднікі, Навакорніна, Трывежа — у Гайнаўскай гміне; Трасцянка, Анцуты, Макаўка, Храбустоўка, Даратынка і Тыневічы Малыя — у гміне Нараў; Ляўкова Новае і Старое, Ляшукі, Альхоўка і Свінарої — ў гміне Нараўка; Істок, Стары Корнін — у гміне Дубічы Царкоўныя; Сухавольцы — у Кляшчэлеўскай гміне. Не гаворым пра меншыя вёскі, дзе таксама аўтобусаў чакаюць пад голым небам.

Здаецца мне, што справай будовы пачакальняў на прыпынках ПКС павінна заняцца Дзяржаўная аўтобусная камунікацыя разам з павятовым упраўленнем у Гайнаўцы. Трэба прызначыць нейкую суму грошай на будаўнічыя матэрыялы, вызначыць найбольш пільныя вёскі і патрэбы і разам з адпаведным гмінным упраўленнем пачаць будаваць пачакальні ПКС. У пабудове іх напэўна жыхары вёсак многа дапамогуць грамадскім чынам. Інвестыцыі гэта не найбольшыя, а як жа чакаюць іх людзі! Давайце супольнымі сіламі прыступім да гэтай работы!

**Раса**

## Не звяртаюць увагі

Хачу напомніць, што аўтобус, які ідзе раніцай а 6 гадзіне з Кляшчэляў у Гайнаўку, зусім знатурыўся. Хаця і быў недзе зімою крытычны артыкул пра гэта ў „Ніве", відаць, аднак, пэкаэсаўскія ўлады ў Сямяцічах мала ўвагі звярнулі на яго. Аўтобус і далей ездзіць не па графіку. На гадзіну, а то і дзве спазняецца, а вельмі часта зусім яго няма. Людзі дарэмна чакаюць на сваіх прыпынках. А гэта ж адзіны аўтобус, найлепшы для рабочых, якія штодзённа ездзяць на работу ў Гайнаўку. Вельмі часта людзі вымушаны хадзіць пехатой на станцыю Вітава і адтуль поездам ехаць, куды трэба.

Кажуць, што гэта віна ўлад ПКС у Сямяцічах, бо адтуль наш ранішні аўтобус бярэ свой пачатак. Не звяртаюць увагі ў Сямяцічах на людскія справы.

**М. Панфілюк**




* * *

Я з табой так нядаўна пазнаўся,
(Недзе ў месяцы маі, бадай)
З той пары я ў табе закахаўся,
Табе сэрца сваё я аддаў.

На тым сэрцы агеньчык палае
Ад тваіх, дарагая, вачэй,
Ён, як вочы твае, мне іграе
І гарыць ўсё мацней, ды мацней.

Я не сплю па начах,
То хаджу, то ляжу, то ўздыхаю,
Кожну ноч ты стаіш у вачах,
Кожны дзень я цябе ўспамінаю.

Пройдзе год, а мо некалькі дзён,
Ты забудзеш мяне, дарагая,
Перад табою зноў з'явіцца „ён"
І яго ты ізноў пакахаеш.

Я астануся сам,
Цяжкі камень у грудзях мне ляжа,
Аднак думкі заўсёды мае будуць там,
Там дзе сэрца тваё ім прыкажа.

Не забуду цябе я так хутка,
Па табе буду доўга ўздыхаць,
Мо не раз і заплачу ціхутка
Ды не будзе каму суцяшаць.

Ой, спаткае не раз мяне ночка
Там на лаўцы, пад дубам старым,
Ой, не раз маргне зорачка вочкам,
Быццам хоча заплакаць над горам
маім.

**Міхась Шаховіч**

## Спічкоўская моладзь пакрыўджана

Год таму назад на спартыўнай пляцоўцы ў Спічках быў праведзены дрэнаж. Меліяратары вельмі неахайна выканалі гэту працу. Яны рабілі гэта абы хутчэй, не зусім добра разгарнулі равы. На такой пляцоўцы не можна было гуляць у мяч. Таму ў маі мінулага года моладзь грамадскім чынам вырашыла зраўняць пляцоўку. Усё зрабілі, як трэба. Равы параўнялі, на пляцоўку прывезлі пясок. І ўсё, здаецца, было б добра, каб не адна справа. Вясной гэтага года трактарысты з сельскагаспадарчага гуртка ў Спічках сапсавалі спартыўную пляцоўку. Замест ехаць дарогай, яны ездзілі проста праз пляцоўку. Ад колаў трактара нарабілася шмат равоў. І выйшла, што зноў няма дзе ў мяч гуляць.

І яшчэ адна, таксама непрыемная справа. На сходзе вёскі жыхары выбіралі малачара, аддавалі ў арэнду ўгоддзі, гаварылі аб іншых сельскагаспадарчых справах. На гэтым жа сходзе яны аддалі ў арэнду і спартыўную пляцоўку. Грошы за гэта, як фонд грамады, цяпер у солтыса. Гэта не падабаецца моладзі. Здаецца, што спартыўнай пляцоўкай можа распараджацца толькі моладзь. Грошы павінны быць прызначаны на справы моладзі. За іх можна купіць патрэбныя спартыўныя рэчы. У гэтым выпадку жыхары вёскі Спічкі паступілі няправільна, яны пакрыўдзілі нас. А што вы на гэта, дарагая „Ніва"? Усе з нецярплівасцю чакаюць адказу.

**Васіль Асеннік**

АД РЭДАКЦЫІ: Спорт — рэч здаровая і карысная. На нашу думку, актыў вёскі Спічкі павінен справу спартыўнай пляцоўкі вырашыць так, каб моладзь магла займацца спортам.

## У Белавежскім „Доме кніжкі"



*Бібліятэкаршу Гражыну Чарноцкую зацікавілі новыя савецкія выданні. Паказвае іх прадаўшчыца Тамара Купень (злева).*

Кожны дзень тут вялікі рух. Прыходзіць многа людзей. Кнігарня дае вялікі выбар розных тавараў. Тут купіце школьныя прылады і матэрыялы, грампласцінкі і кніжкі, асабліва багаты выбар школьных кніжак. Полкі з савецкімі выданнямі — у Белавежы на іх ёсць многа ахвотных.

„Наш „Дом кніжкі" — гаворыць прадаўшчыца Тамара Купень, — быў адкрыты ў 1967 годзе. Я працую тут ад пачатку. Пра тое, як патрэбна была кнігарня ў Белавежы сведчаць цяпер яе абароты — 350 тысяч у год. Адных кніжак прадаем у месяц на 15 тыс. зл. У нас ёсць пастаянныя пакупнікі: Пётр Тарасевіч, Уладзіслаў Муканоўскі, Станіслаў Бянько, Казімера Касцялецкая, Януш Фалінскі, Вечаслаў Дэмяшкевіч, Чэслаў Аколуў. Вядзем таксама субскрыпцыю на выдавецтвы — гэта форма продажу папулярная сярод белавежскіх вучоных. У наш адрас і свае, і замежныя турысты кіруюць словы падзякі. Яны не раз гавораць, што нідзе не маглі купіць патрэбнай кніжкі, а толькі тут, у Белавежы. Стараемся інфармаваць людзей пра ўсе кніжныя навінкі. Маем маленькі куточак, дзе заўсёды выкладаем бягучыя інфарматары. Дбаем пра вітрыны ў вокнах.

У „Днях кніжкі" арганізуем кніжныя кірмашы. Яны ў нас вельмі папулярныя. Людзі ўвогуле ўсміхаюцца, калі заходзяць у сваю кнігарню, таму думаю, што задаволены яны працай сваёй прадаўшчыцы".

**Пётр Байко**
**фота Войцеха Мінкевіча**

## ТАВАРЫШ ДЫРЭКТАР

У пачатковай школе № 6 у Беластоку дырэктарам школы з'яўляецца член ПАРП Галена Абуковіч. Гэта добрая і ветлівая жанчына. Дырэктарам у 6-ай школе працуе яна ад 1963 года. Дырэктар Абуковіч, відаць, нарадзілася педагогам, а навучылася толькі быць добрым арганізатарам і кіраўніком. Пад яе кіраўніцтвам працуе 38 настаўнікаў, а ў школе вучыцца 987 дзяцей. Праца ідзе на тры змены.

У школе ёсць клуб, у якім арганізавана дакармліванне дзяцей. Пад кіраўніцтвам Ірэны Шэшка працуе лялькавы тэатр, які цесна супрацоўнічае з лялькавым тэатрам „Свершч" у Беластоку. У школе працуе таксама гарцэрскі шчэп, які складаецца з чатырох дружын: імя Касцюшкі, Каперніка, Кусацінскага і Сврчэўскага, а таксама пяць дружын зухаў. Акрамя гэтага, дзейнічае 8 гурткоў: літаратурны, 2 матэматычныя, 2 прыродазнаўчыя, геаграфічны, маладога бібліятэкара і тэхнічна-мадэлярскі. Існуе 8 спартыўных класаў з пашыранай праграмай спорту да 40 гадзін у тыдзень. Вядуцца тут карэкцыйныя заняткі па фізкультуры — яны ўвяліся ў гэтай школе адны з першых у горадзе.

Працуе таксама вядомы школьны хор. Ён часта выступае не толькі ў раёне „Тысячагоддзя", але і ў цэлым горадзе. Школа супрацоўнічае між іншым з Домам Культуры ў раёне „Новэ Място".

Трэба яшчэ сказаць і аб тым, што школа № 6 даўно ўжо працуе грамадскім чынам для дабра свайго раёна і горада. Напрыклад, за 1973 год яе грамадская праца ацэньваецца ў 54 тыс. зл.

Калектыў школы, якой кіруе Галена Абуковіч, не забывае пра тых, хто загінуў за народную ўладу. Школа апякуецца ваенным могільнікам у Звяжынцы, які ў цэлым падлягае апецы акушэрскай школы.

За выдатную і карысную працу школа атрымала вялікую колькасць кубкаў, адзнак і цэлыя сцены дыпломаў, колькі іх, я не далічыўся.

Сама дырэктар школы Галена Абуковіч, апрача працы ў школе і дома, з'яўляецца актыўным дзеячом Беластоцкай жыллёвай спулдзельні, дзе таксама мае шэраг адказных абавязкаў.

**Васіль Петручук**

ВЕСТКІ З АЗЯБЛАЎ

## ◆ ЛЕГЕНДА ◆

Недалёка ад нашай вёскі Азяблы (Беластоцкі павет) ёсць возера Горбач. Расце там малады багон. Цяпер дайсці да возера можна дарогаю, якая праходзіць праз лугі і лес. Калісьці гэты лес і навакольныя абшары былі недаступнаю дрыгвою. Здарылася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады адбывалася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Выдавала таксама нейкія незразумелыя гукі. Той, хто ішоў следам гэтай з'явы, трапляў у нетры, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то праходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца. Старэйшыя гавораць, што даўней жылі тут чэрці і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'явіўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя і хацелі яму па-свойму „падзякаваць" за гэта.

Цяпер усе старыя і маладыя згодна гавораць, што чарцей тут няма. Чэрці даўно адсюль ужо ўцяклі ў невядомым напрамку і ніхто іх не бачыць. Мо пайшлі на пенсію?

## ◆ Гадоўля кароў ◆

Нізінную чорна-белую пароду кароў („нцб") сяляне ў нашай вёсцы пачынаюць толькі цяпер разводзіць. Раней абавязвала тут раёнізацыя, і сельскагаспадарчая служба не дазваляла яе разводзіць.

— „Нцб" — высакаякасная парода, чулі, што высокамалочная, таму мы яе гадуем, — сцвярджаюць гаспадары вёскі Азяблы.

Цяпер маладых цялят нізіннай чорна-белай пароды маюць гаспадары: Яўгень Грыка, Мікалай Азябла, Юрка Хшаноўскі і Ян Гутнік.

**Павел Гутнік**

## Будова бяжыць, як мокрае гарыць

Сельскагаспадарчы гурток у Піражках добра гаспадарыў на зямлі дзяржаўнага фонду. Больш 300 гектараў рабілі яны. Збіралі больш 20 цэнтнераў збожжа з гектара. Было ў іх 12 трактараў з поўным саставам машын, былі два камбайны і іншыя машыны. Акрамя апрацоўкі сваёй зямлі, давалі паслугі бліжэйшым вёскам. Але 1 верасня 1973 года іх зямлю забраў ПГР у Крынках, пакінуў ім толькі 48 гектараў. Сельскагаспадарчы гурток у Піражках перайшоў цяпер на гадоўлю свіней і паслугі для людзей.

У 1973 годзе гурток у Піражках накапаў 120 тон бульбы, якую завёз у Ліпск і перарабіў яе на бульбяны суш, на корм свіням. Выйшла 12 тон сушу.

Ёсць ва ўсёй гэтай справе і адна бяда. У ліпені 1973 года спулдзельня вытворчых паслуг у Саколцы распачала будову хлява для сельскагаспадарчага гуртка ў Піражках — на 360 штук свіней. Але гэта будова так бяжыць, як мокрае гарыць. Людзі кажуць, што рабочыя тут замнога адпачываюць, а пасля нядзелі ім доўга галовы баляць. Толькі на пацеху, гэтымі днямі работа крыху пайшла ўперад. Гурток у Піражках хоча хутчэй гадаваць свіней, каб той суш скарміць. А на сваіх 48 гектарах зноў хоча пасеяць свінням персідскую канюшыну, азімую выку і іншыя пашавыя культуры.

**Т. К.**

У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## За што рэкампенсата ПЗУ?

АДКАЗВАЕ:

**PAŃSTWOWY ZAKŁAD UBEZPIECZEŃ ODDZIAŁ WOJEWÓDZKI W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na zamieszczoną notatkę prasową pt. „Jedno plon, a drugie nie plon" w czasopiśmie „Niwa" nr 5 z 3.II.1974 r., Oddział Wojewódzki PZU w Białymstoku uprzejmie informuje, iż w myśl Rozporządzenia Rady Ministrów z dnia 1.II.1972 r., wydanego na podstawie ustawy z dnia 2.XII.1958 o ubezpieczeniach majątkowych i osobowych, obowiązkowemu ubezpieczeniu od gradobicia i powodzi podlegają w gospodarstwie rolnym ziemiopłody następujących upraw:

1) Żyta, pszenicy, jęczmienia, owsa i prosa — ziarno i słoma.
2) Kukurydzy, gryki (tatarki) — ziarno.
3) Roślin pastewnych (z wyjątkiem okopowych) uprawianych na paszę jako plon główny, poplon lub śródplon — ziarno, siano lub zielona masa — tylko od powodzi.
4) Ziemniaków.
5) Roślin okopowych uprawianych na paszę oraz buraków cukrowych.
6) Łąk i pastwisk — trawy nieskoszone oraz siano lub zielona masa.

Jak z powyższego wynika **obowiązkowym ubezpieczeniem objęte są rośliny podstawowe** uprawiane w kraju, między innymi także i gryka — **niezależnie od tego czy jest kontraktowana lub nie.**

Uwzględniając nadesłany wycinek z gazety trudno jest ustosunkować się co do przyczyny odmowy likwidacji szkody lub wypłaty odszkodowania, ponieważ brak jest informacji, u jakiego rolnika miał miejsce opisany przypadek, gdzie on mieszka i w jakim roku to nastąpiło.

Oprócz ubezpieczeń obowiązkowych wymienionych wyżej upraw, PZU prowadzi ubezpieczenie kontraktowanej produkcji roślinnej na podstawie ogólnych warunków, zatwierdzonych przez Ministra Finansów z dnia 14 kwietnia 1972 r. O tym, jakie rośliny lub ich plony są ubezpieczone w ramach kontraktacji i od jakich klęsk, plantatorzy są informowani w wyjaśnieniach zawartych w umowach kontraktacyjnych.

Rolnik może ubezpieczyć każdą roślinę uprawianą rolniczo w ramach dobrowolnego ubezpieczenia z możliwością uzgodnienia specjalnych warunków dogodnych dla obu stron, z jednoczesną opłatą składki, która przy umowach indywidualnych jest stosunkowo wysoka.

Państwowy Zakład Ubezpieczeń, dbając o dobro i ciągłość produkcji rolniczej, dąży także do zmniejszenia wysokości pobieranych składek. Jest to możliwe w przypadku, gdy ubezpieczenie danej grupy roślin staje się powszechne.

Przykładem tego są zawarte porozumienia w 1973 roku pomiędzy PZU a Centralą Spółdzielni Ogrodniczych, Centralą Rolniczą Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" oraz Zjednoczeniem Chłodni Składowych i Przemysłu Owocowo-Warzywniczego na ubezpieczenie produkcji warzywniczo-sadowniczej w ramach kontraktacji obowiązującej od 1.I.1974 r. Przedmiotem ubezpieczenia są zakontraktowane przez gospodarstwa indywidualne, spółdzielnie produkcyjne i kółka rolnicze plony warzyw jarych od skutków gradobicia i przymrozków wiosennych oraz tylko od gradobicia plony warzyw ozimych, sadów, krzewów owocowych i plantacji ogrodowych.

Państwowy Zakład Ubezpieczeń organizuje ochronę ubezpieczeniową, uwzględniając postulaty oraz aktualne potrzeby zabezpieczenia pokrycia wydatków spowodowanych zdarzeniami losowymi.

**Zastępca Dyrektora**
**Oddziału Wojewódzkiego**
**Józef Gędzielewski**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.

З савецкага гумару

# АГІДНАСЦЬ

— Ало! Гэта аўтабаза? Дырэктара!
— Яго няма.
— Пашукайце.
— Ён выйшаў абедаць.
— Паклічце яго са сталоўкі!
— Ён абедае ў хаце. Можа, яму што-небудзь перадаць?
— Нічога. Дайце намесніка.
— Намеснік вас слухае.
— Намеснік, чым вы там усе займаецеся? Забіваеце казла? Ці, чаго добрага нахлябталіся?!
— Што вы! Мы працуем!
— Працуем... Чаму ж тады не прыйшла машына на Перлоўскі завулак?
— Якая машына?
— 22-43. Няўжо вы забылі, што машына павінна быць пададзена на Перлоўскі?
— Даруйце, з раніцы машына была на месцы. Потым Фелікс Палікарпавіч паехаў у міністэрства. Вярнуўся і адразу недзе знік.
— Знік? Вы разумееце, аб кім так гаворыце?!
— Выбачце, я недакладна выказаўся. Я хацеў сказаць, што Фелікс Палікарпавіч некуды паехаў.
— Чаму вы не ведаеце, куды менавіта і на колькі?
— Аб гэтым не ведае нават яго сакратар.
— Ну, нічога, я яму пакажу!
— Сакратару?
— Не. Пеці?
— Якому Пеці?
— Шафёру.
— Пятру Васільевічу?
— Так. Пеці. Ён дасканала ведае, што па чацвяргам я вызваляюся а першай. I вам пара б аб гэтым ведаць. Колькі вам год?
— Пяцьдзесят два!
— Да пенсіі яшчэ далёка. Працаваць трэба.
— Стараемся.
— Дрэнна стараецеся.
— Магчыма. З боку відней. Мы палепшым працу, выправім недахопы. Але прашу вас улічыць, што Пётр Васільевіч... выбачайце, Пеця павёз Фелікса Палікарпавіча.
— Бацька таксама добры. Ужо пятнаццаць мінут, як кончыліся ўрокі, а машыны няма. Агіднасць!

**Варлен Стронгін**



— *Пятро не справіўся з работаю.*
— *Трэба яму прызнаць яшчэ аднаго памочніка.*

# НІЎКА



## Зяцеў пачастунак

**(Расказ суседа)**

Хоць і ламала косці,
Між клопатаў і спраў
Надоечы я ў госці
Да зяця завітаў.

Каб час удвух нам бавіць,
Я думаў: гаспадар
На стол хутчэй паставіць
Бліскучы самавар.

А ён за пляшкай пляшку
На стол то грук, то бух,
I сала, як не плашку,
I сыру з кола круг.

I каб не ўдарыць тварам,
Як той казаў, у гразь,
Я зяцеву шклатару
Апаражняўураз...

Ішлі вячэрнім горадам,
Абняўшыся, пасля.
Пад намі як не ходарам
Хадзіла ўся зямля.

Пакінуў недзе зяця,
Згубіў пінжак, картуз.
А раніцой намацаў
З кулак на лобе гуз.

Цяпер ламаю голаў:
Як прыйдзе ў госці зяць,
Мо крапівою голай
Яго пачаставаць?..

**Васіль Макарэвіч**

### УСЁ Ў ПАРАДКУ

У дарозе сапсавалася машына. Шафёр вылез з кабіны і, пакапаўшыся ў маторы, сказаў:
— Усё ў парадку. Толькі ехаць далей немагчыма: каробка скорасцей паляцела.

### ЯК УДАЛОСЯ

Важнаму наведвальніку паказваюць у заапарку клетку, дзе самым спакойным чынам знаходзяцца разам воўк і ягня.
— Здзіўляюча! — захапляецца наведвальнік. — Такога я яшчэ не бачыў. Як вам гэта ўдалося?
— Вельмі проста. Мы тры разы ў дзень мяняем ягня...

— *Патрасіце, калі ласка, галавою — недзе там згубіліся мае ножніцы.*



...Яна мела цікавы профіль працы — вадзіла хлопцаў за нос.

...У яе голас анёла, а думкі чорта.

### ДОБРЫ МУЖ

Аднойчы за абедам жонка гаворыць да мужа:
— Які ты ў мяне добры! Я ўчора і сёння перасаліла боршч, а ты — ні слова...
— Ану паспрабуй перасаліць яшчэ і заўтра! — пагразіў муж.

### НАПУЖАЛА

— Параска, навошта гэта вы яму сырод гароду капаеце?
— Каб суседскія куры ў яе пападалі.
— Дык яны ж і блізка не падыдуць.
— Няхай, затое напужаю.

### УСЁ БУДЗЕ ДОБРА

Прыходзіць мужчына ў магазін і гаворыць прадаўшчыку:
— Мне патрэбны летні абутак, хацелася б, каб з дзірачкамі.
— Калі ласка, бярыце гэты!
— Але ж ён без дзірачак.
— Не турбуйцеся, усё будзе добра. Паносіце некалькі дзён, і дзірачкі з'явяцца.



*Без слоў.*

### БЛІНЫ

Немаладая жанчына прыходзіць на кансультацыю да псіхіятра.
— Бачыце, доктар, — гаворыць яна, — мой муж лічыць, што я звар'яцела. I гэта толькі таму, што я люблю бліны.
— Нічога асаблівага, — адказвае лекар, — я таксама вельмі люблю іх.
— Вось і цудоўна! — цешыцца жанчына. — Вы абавязкова павінны зайсці да мяне: у мяне абедзве шафы і камода выпоўнены імі даверху.

### НАЧАЛЬНІК

Начальнік выклікае сакратарку і разлавана гаворыць ёй:
— Перапішыце гэтае пісьмо. Вы напісалі „Дарагі пан". Гэтаму махляру, бандыту, гангстэру...
— Добра, — адказвае сакратарка. — Але ж які зварот выкарыстаць?
— Напішыце: „Многапаважаны калега".

### ПАЎТАРЫЎ ДАСЛОЎНА

— Вова, чаму ты не слухаеш? — спытаў на ўроку настаўнік вучня.
— Я слухаю, — адказаў той.
— Тады паўтары мае апошнія словы.
— Вова, чаму ты не слухаеш? — без запінкі паўтарыў хлопчык.



*Два пункты погляду.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Зінаіды Марозавай, Ірэны Якацюк, Яўгеніі Вішанка і Галены Паўлючук змяшчаем песню

## MARZYCIELE

**słowa: Jerzy Kleyny**
**muzyka: Antoni Kopft**
**śpiewa: Partita**

Wpół żyją i drzemią wpół — to marzyciele
do czarnych chmur uśmiechają się,
a w uszach im trele gra i gra morele
aż im się tańczyć chce.
Gdy patrzą nam prosto w twarz, nie mają tremy
choć myśli ich niepoprawne są.
Po oczach ich w tłumie poznajemy,
wiemy już, kto jest kto.
Nad ziemią tuż, tuż, tańczą marzyciele
a muzyczka im się śni,
już, już ludziom na niedziele
przerabiają dni.
Ich oczy świecą od gwiazd,
ich głowy w niebie są aż,
ich serca biją jak zegary,
odmierzają stary czas.
To ani szept, ani śpiew — to ich marzenia,
ze wszystkich stron wyruszają w świat,
aż trafią tam, gdzie ich brak
i świat się zmienia im w kolorowy kwiat.
A każdy z nich skrzydła ma pod marynarką,
gdy zechcą to rozwijają je
i z krzesłem swym albo i z wersalką
fruną w dal jak we śnie.
U schyłku dnia, dnia chodzą marzyciele,
w klapach noszą pąki róż.
Raz, dwa — choć ich tak niewielu,
a weselej już.
Ich płaszcze pełne są łat,
nie każdy obiad już jadł,
a jednak bez tych marzycieli
w łeb by sobie strzelił świat.

### ЧАМУ?

— Чаму жанчыны заўсёды памятаюць дату свайго вяселля, а мужчыны — ніколі? — пытае адзін рыбак у другога.
— А ты помніш, калі злавіў самую буйную рыбу?
— Вядома.
— Ну, дык вось, вельмі проста. А рыба ўжо гэтага не памятае.





### ПАВЕДАМІЎ

Ідзе хлапец ля става, пасвіствае. Калі бачыць — нейкі незнаёмы рыбу ловіць.
— Дзядзька! — гукнуў хлапец.
— Цыц. Не лякай рыбы!
Недзе праз паўгадзіны хлапец зноў:
— Дзядзьку!
— Я каму кажу, змоўкні. I так не клюе.
Мінула гадзіна, другая. Нічога і не злавіў рыбак. Ужо збіраючыся дамоў, спытаў у хлапца:
— А што ты хацеў мне сказаць?
— Ды хацеў сказаць, што ў гэтым стаўку ужо дзесяць год рыбы няма.

# КУР'ЁЗЫ

### ГУКАВЫЯ МАРКІ

Даўно заўважана — чым меншая і бяднейшая дзяржава, тым больш багатыя і разнастайныя паштовыя маркі, якія выпускаюцца ёю ў абарачэнне. Эмісія знакаў паштовай аплаты прыносіць значны даход дзяржаўнай казне, таму што маркі за вялікія грошы разбіраюцца калекцыянерамі - філатэлістамі. Якія толькі за апошнія гады не з'яўляюцца маркі: надрукаваныя на тэкстыльнай тканіне, на скуры. Аднак усе гэтыя філатэлістычныя хітрыкі нішто перад выраба паштовага ведамства каралеўства Бутан. Яно выпусціла паштовыя маркі ў выглядзе мініяцюрных металічных патэфонных пласцінак, на якіх запісаны нацыянальныя мелодыі Бутана і дзяржаўны гімн каралеўства.

Але ні на адным пісьме падобныя „гукавыя маркі" не з'явіліся. Яны былі загадзя скуплены калекцыянерамі і прынеслі значны даход паштоваму ведамству каралеўства.

### МІФІЧНЫ ДЭПУТАТ

Адзін з інстытутаў вывучэння грамадскай думкі ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг правёў апытанне насельніцтва, каб высветліць ступень папулярнасці мясцовых і бонскіх палітыкаў. На адно з першых месц выйшаў нейкі Манфрэд Хагеле, упамянуты ў анкеце як адзін з дэпутатаў мясцовага ландтага. Ён аказаўся больш вядомым сярод насельніцтва, чым іншыя бонскія палітыкі.

Потым сацыёлагі, якія праводзілі апытанне, раскрылі свой сакрэт: палітыка Хагеле не існуе. Яны ўключылі ў анкету гэту міфічную фігуру пад швабскім прозвішчам, вельмі пашыраным на паўднёвым захадзе ФРГ. Зроблена гэта было для таго, каб праверыць, наколькі жыхары Бадэн-Вюртэмберга, у тым ліку і сапраўдныя Хагеле ведаюць аб палітычным жыцці краіны.





*Калі змяя мяняе скуру, яна становіцца асабліва ядавітай.*